**Календа, С.**
Дэкалог / Сяргей Календа. – , 2021. –     с.

**ISBN**

«Дэкалог» – гэта дзесяць гісторый, напісаных паводле дзесяці Запаветаў. Аўтарская інтэрпрэтацыя. Гісторыі для людзей, якім падабаецца чытаць паміж радкоў, марыць і адкрыта глядзець на новае – незвычайнае і побытавае.

**ISBN**

*Майму сыну Томасу.*
*Дарагі мой, няхай*
*гэтая кніга натхняе цябе*
*на лепшае ў жыцці*

# ЗМЕСТ

# АДВЕЧНЫЯ ЗАПАВЕТЫ І СМЯРОТНЫЯ ГРАХІ

Запаветы – кодэкс жыцця, смяротныя грахі – этыкет паводзін. Так я магу акрэсліць свой погляд на Біблію і рэлігію агулам. Хто што б ні казаў, але наш сусвет пабудаваны на кодэксе і этыкеце, і гэта, скажу я вам, зусім не кепска, як бы вас не пераконвалі.

Мая кніга дае магчымасць зазірнуць у свет старых законаў, вечных каштоўнасцяў, якія перажылі не адну цывілізацыю, катаклізмы, рэжымы... Чалавецтва мае спадчыну, якая можа быць вечнай роўна столькі, колькі жыве культура, адукацыя, розум людскі. Бо мы ўсе добра бачым: існаваць без літаратуры, мастацтва, святых правілаў жыцця – магчыма, але жыць па-чалавечы – не.

Апошні год я думкамі там, дзе мне спакойна, дзе я магу адчуваць волю, разважаць,

весці дыялог з самім сабой, без страху, нерваў, апавядаць сыну пра тое, што лічу самым галоўным у жыцці. Такім чынам я прыйшоў да высновы: «Дэкалог» – кніга, якая можа шмат патлумачыць і адначасова заблытаць.

Я апісаў у першую чаргу каштоўнасці і ўмоўнасці жыцця, альбо – так будзе дакладней – Быцця і Архетыпаў вакол законаў самога існавання.

Для мяне вялікай дылемай было выбраць трактоўку Запаветаў. Я спыніўся на «Кароткім Катэхізісе» Марціна Лютэра: тлумачэнні падаліся мне найбольш адпаведнымі сучаснасці.

Што тычыцца смяротных грахоў, чытачу будзе цікава знайсці іх самастойна, я толькі пералічу: грэх гневу, грэх сквапнасці, грэх абжорства, грэх распусты, грэх ганарыстасці, грэх роспачы, грэх зайздрасці.

Падсумую: на кнігу прыпадаюць чатыры смерці, два вар'яцтвы, адно знікненне, летаргічны сон, расчараванне ў быцці і чорная скруха.

Запрашаю да чытання. І сачыце за падзеямі тут: #kalendasiarhiej #kalendadecalog #календадэкалог.

*Сяргей Календа*
*Лістапад 2021*
*Мінск*

# РАДЫЕАКТЫЎНАЯ ПУСТЭЧА

Я Гасподзь, Бог твой, Які
вывеў цябе зь зямлі Егіпецкай.
*Выхад 20:2*[1]

1.

Іаан распавядаў, што ў яго маленстве людзі жылі раскошна: былі аўтамабілі, самалёты і на ветразях водныя машыны. За грамадствам сачыла праграма, якая сканавала твары і целы і так дазваляла карыстацца грамадзкім транспартам, набываць прадукты, атрымліваць медыцынскія паслугі.

Жыццё было боскім. Трэба выконваць сваю працу і атрымліваць усё найлепшае: цёплую кватэру, ежу, медыязабавы.

Было ўсё і не было незадаволеных.

Быў адзіны Бог Сонца, якога кожны як хацеў, так і зваў: Яхве, Егова, Алах, Буда, Крышну…

Жыць было проста: адна праца, адзін Бог, адна сям'я. Не трэба клапаціцца пра штосьці большае.

І тут, у імгненне, ад шчасця нічога не засталося.

[1] Тут і далей цытаты з Бібліі публікуюцца ў перакладзе Васіля Сёмухі, World Wide Printing Duncanville, USA 2002.

Кажуць, быў задзейнічаны вірус, што спачатку скасіў палову насельніцтва, а пасля зламаў сістэму бяспекі ва ўсіх камп'ютарах свету.

Ёсць сведчанні, што гэта запланаваны тэракт. Пасля вірусу мусілі выбухнуць АЭС, пакінуўшы ў жывых толькі мільярд – тых, хто абслугоўваў бы адзінак... Але хтосьці іншы запусціў ядзерныя ракеты і з *deep state* не засталося нікога.

Цяпер не тое, што камп'ютар – ровар цэлы складана знайсці.

Зямля – суцэльная пустка, адно толькі лічыцца жывой. Жоўтая. З адлівам атрутна-зялёнага. Чырвона-барвовая. З аднаго боку пратараненая Луною, якая грымнулася і збіла з арбіты планету, даўшы расколіну.

Тут і там уздымаецца полымя. Месцамі можна натрапіць на завеі. Стварыліся рэгіёны, атручаныя ўшчэнт, куды так проста не трапіць.

«Нас засталося з дзясятак, мы павінны трымацца адно аднаго», – прамаўляе ў начной цемры стары Іаан.

2.

Калі змяніліся тры пакаленні, пачалі нараджацца дзеці, якія здолелі і адаптавацца пад тэмпературу, і ўжываць любую вадкасць, і ўтульна пачувацца ў катлаванах. Старэйшыя не выходзілі з шатра без кіслародных пакетаў – малыя ж гойсалі вольна паўсюль.

Усе новыя дзеці, чацвёртае пакаленне радыеапакаліпсісу, – чырвоныя. Колер іх скуры падобны да крыві.

Незвычайнае цяпер ёсць будзённым.

3.

Іаану шмат хто не верыць, бо ён часта пачынае распавядаць байкі пра бесправадны інтэрнэт і дроны. Але Іаан – самы стары на свеце, і яго многія клічуць прарокам: ён сотні разоў ратаваў іх караван ад банд, бо заўжды ведаў больш за астатніх.

Іаан кажа, што маладым ён жыў у краіне, дзе трэба было ўмець змагацца і быць гатовым да ўсяго. Цяпер жа прарока часам заносіць у цемры памяці так, што нават старое пакаленне не можа патлумачыць, пра што ён кажа. Можа, гэта відзежы, а можа, проста старасць.

4.

Аднойчы, калі караван знайшоў даліну, амаль некранутую выбухам, было вырашана застацца ў гэтых мясцінах надоўга – пакуль не скончацца запасы і даліна не будзе даследавана ад кожнага кута да кожнага куста, каб назапасіць харчоў на гады наперад. Іаан кажа, што, калі рухацца ў бок зялёнага сонца, якое так бязлітасна паліць, можна дакрочыць да напаўцёмнага боку зямлі, дзе, на яго думку, жыццё віруе: там смачная вада і «чыстыя» зубры, на якіх можна будзе паляваць, як у старажытнасці, ён нават песню пра гэтых міфічных зуброў часам напявае.

Лагер быў разбіты ажно на сем год. Ежы хапала, каб пачаць радаваца жыццю і забыцца на іншы бок планеты.

Чырвоныя падраслі, і пачалася сапраўдная канфрантацыя старых і дзяцей, бо пытанні пра чырванаскурасць ужо абрыдлі. Як і адказы на тыя пытанні.

Малыя не разумелі, чаму яны такія, і, калі пасталелі, пачалі самі фармавацца ў групоўкі. Лагер ператварыўся ў фронт няўтульных пытанняў і падлеткавай варожасці, калі дастаткова не так паглядзець у іх бок, каб сутыкнуцца са злосцю, непараўнальнаю з позіркам.

Чырвоных дзяцей Іаан назваў марсіянамі.

Ніхто не зразумеў, але ўсе палюбілі гэтую мянушку.

5.

А потым адзін са старэйшых дзяцей – Бэньямін – аднойчы прыйшоў на заняткі да Іаана з каляровым крота-пацуком.

Хлопец сказаў, што гэта ён звярыны слуга, бо гэта бог, што плюецца кіслай слінай, ад якой усё зварваецца на вачах. І, каб даказаць свае словы, сціснуў стварэнне – тое плюнула далёка на сценку шатра, і яна адразу пачала плавіцца.

6.

Чырвоныя дзеці пачалі таемна адлоўліваць жывёл, каб пакланяцца ім, як гэта раіў першы, хто злавіў істоту, – марсіянін Бэньямін.

Спачатку Іаан не зважаў, што суполка дзяцей паводзіць сябе занадта добра: усе выконваюць хатнія заданні, вучаць мову, чытаюць кніжкі, якія знойдуць, збольшага недагарэлыя брашуры і рэкламныя праспекты...

Група марсіян жадала жыць па-новаму, і гэта адчувалася ва ўсім. Але ніхто не падаваў віду.

Іаан назіраў за ўсім звонку і пакуль што маўчаў: вакол пустэльня, паветра бы полымя, а моладзь стварае сабе новае жыццё, быццам беручы сілу з пяску і спёкі. Здаецца, гэта лагічны ланцуг Быцця, эвалюцыя пакаленняў.

7.

І вось дзеці не падзялілі палаючага звярка.

Марсіяне сварыліся на вачах усёй абшчыны, якая ўжо налічвала сотню жыхароў. Тады Іаан і заўважыў: марсіянскія дзеці хаваюць тузін дзікіх стварэннняў ужо шмат месяцаў. Пакуль гэтыя істоты знаходзяцца ў іхным атачэнні, яны выглядаюць бясшкоднымі. І гэта дзіўна. Бо ніводны чалавек яшчэ не выжываў самотным у пустэльні – даводзілася яднацца. А тут, ва ўсіх на вачах і адначасова таемна, чырвонаскурыя прыручылі драпежнікаў.

8.

Іаан вырашыў сабраць І вялікі сход. Стары знайшоў узвышша, загадаў паставіць на ім ложак і лёг.

– Сябры мае! Дзяды, бацькі і маладыя марсіяне! Наш час яшчэ не прыйшоў, бо мы самі не прыйшлі да месца нашага прызначэння! Сем год мы прастаялі тут – выраслі, адужэлі, назапасілі ежы і вады, навучыліся чытаць і пісаць. Цяпер настаў час ісці зноў. І няхай вас больш не пужаюць каляровыя істоты! Марсіянскае пакаленне знайшло да іх падыход, таму я здымаю закон аб забароне радыеактыўных драпежнікаў!

Пачуўшы гэта, марсіяне радасна заскокалі, чаго не скажаш пра старэйшае пакаленне – тыя пагналі ва ўсю моц, падалей ад звяр'я.

Раптам крота-пацук Бэньяміна апынуўся каля ложка Іаана і выпусціў тонкую струйку на шыю старога.

9.

Прарок, так і не ўстаў: ён страціў прытомнасць, потым знерухомеў, і на трэці дзень яго пахавалі.

Пасля жалобы марсіянін Бэньямін сабраў II сход.

– Найшаноўнейшае спадарства, будучае грамадства планеты! Жывёлы нашы – нашы багі. Так сказаў мне ў відзежах Іаан, прарок наш! Я абяцаю вам усім, што яны абароняць нас у падарожжы. Рушым жа з іх дапамогай у будучыню! – хлопец выглядаў велічна на фоне звыклага менавіта для іх вачэй сонца, прадзьмуваны паветрам, да якога толькі яны былі прызвычаеныя.

*Красавік – травень 2021*
*Хургада / Брно*

# АХВЯРНАЯ ЖЫВЁЛА

Не вымаўляй імя Госпада,
Бога твайго, марна.
*Выхад 20:7*

1.

– Сын, сыночак, дарагі мой, Гасподзь мой Любы, які ты брудны і які рот у цябе злы – столькі мацюкоў! Так нельга! Ты зусім ад рук адбіўся. Маленькі быў такі добрым, ласкавы, а цяпер, як на голках жывеш, а татуіровак колькі яшчэ ў цябе з'явілася, то я нават і не ведаю! – маці маліла Іллю, каб той хоць на хвілінку да яе прыслухаўся.

– Жыві хутка, мля, памры маладым, я далучыўся да клуба «дваццаць сем», і мяне ўжо не спыніць, прамовіў хлопец і далей, на злосць маці, вылаяўся, мяшаючы імя Бога, мацюкі і слэнг. – А ты, дарэчы, будзеш у пекле палаць, бо імя Бога ўстаўляеш у кожны сказ, сама мяне ў Біблію тыкала, пра гэта чытала, цяпер і мая чарга! – сказаў хлопец і смачна харкануў сабе ў кулак, бо не мог усё-ткі на падлогу, пэўна ж у хаце, а не ў хляве.

– Ды адкуль жа ты гэтую сваю суполку прычапіў? Што гэта ў цябе за чорныя жарты, ты ж як чорт, мо сапраўды, хто цябе адурманіў! – маці з агідай глядзела, як сын у кулаку расцірае соплі. Ілля вярнуўся дадому, прагуляўшы ў Маскве два тыдні, а дакладней, адпрацаваўшы на будоўлі, нелегальна, не маючы ані споднягa, ані мабільнага, зарабляючы на квіток у Менск. Так здарылася, што ён, непрытомны,

пасля нейкіх незразумела з кім злоўжыванняў, апынуўся на вакзале ў Маскве – без рэчаў, дакументаў і грошай, не памятаючы, як і чаму, але дакладна ведаючы, што ровар, які яму маці падаравала на дзень нараджэння месяц назад, незваротна згублены альбо скрадзены.

– Я не буду ў цябе пытацца, куды ты знік, і нават пра ровар нічога не скажу, але, сыночак мой дарагі, дзякуй Богу, што ты вярнуўся.

– Ізноў бог твой! Я вярнуўся, бо пахаў як Тата Карла на будоўлі, у іншай краіне, жанчына!

– Божа ж ты мой Божа, Іллюша, ну чаму ты так сябе паводзіш? Ну што ў цябе здарылася, каб так руйнаваць сваё жыццё! Мне так балюча на цябе глядзець! – плакала маці ціха, каб не злаваць сыночка свайго.

Ілля ў свой час, калі ўсе аднакласнікі пайшлі па ўніверсітэтах, загуляў на год. Ён сказаў маці, якая адна яго гадавала, як магла, што яму патрэбны адпачынак пасля школы. У армію яго не ўзялі дзякуючы той жа маці і яе сувязям, таму ён мае права падрыхтавацца да ўніверсітэцкага жыцця па-еўрапейску: спачатку падарожнічаючы па свеце, гледзячы на іншых і сябе паказваючы, а заадно і шукаючы годную вучэбную ўстанову.

– Чэшскі ўніверсітэт ты кінуў, нават не пачаўшы як след! Цябе пагналі з самага простага факультэта, які я аплаціла за ўвесь вучэбны год! – Маці ізноў пачала нагадваць сыну пра яго жыццёвы шлях. І гэтыя мантры моцна злавалі сына.

– Ды адчапіся ты ўжо са сваёй адукацыяй! Я сышоў, бо кепска там было! Нецікава!

– А чаму паўсюль павінна быць абавязкова цікава?! Вучоба – гэта складаны і цяжкі працэс, які цябе адукоўвае, робіць прафесіяналам, інтэлектуалам...

Ілля, праз год алкаголю і наркотыкаў, выдаткаваўшы ўсе грошы, што дзядуля яму залічыў на рахунак з нагоды васямнаццацігоддзя (а сумма была даволі буйная), вярнуўся дахаты ў стане смяротнага перапою і ляжаў пад кропельніцамі з вітамінам С тыдзень, пакуль ачомаўся і яго перастала трэсці, як асінавае лісце на ветры.

І вось Ілля ачуняў і паведаміў, што знайшоў для сябе ўніверсітэт у Празе і яму тэрмінова патрэбныя грошы, каб найхутчэй пачаць вучобу.

– Ілля, Бог усё бачыць і не даруе тым, хто падманвае сваю маці. Ты ж казаў мне тады, што вучышся, што ўсё ў цябе як мае быць! – маці зазірала сыну ў вочы, пакуль той, стаміўшыся спрачацца, усё-ткі прысеў за стол на кухні і цяпер вазіў далонню з соплямі па ўнутранай частцы дубовага стала.

– А што, я, па-твойму, не вучыўся? У мяне ўсё было, я б выдатнікам стаў, калі б не гэтыя тупыя прэпады! – ускрыкнуў малады чалавек, калі яшчэ так можна называць чалавека, які чвэрць стагоддзя жыў, быццам усё ўжо абрыдла і кожную хвіліну трэба стымуляваць мозг новымі пачуццямі, эмоцыямі, наркотыкамі, дзяўчатамі.

Ілля моцна сварыўся з маткай, калі тая перастала пералічваць яму грошы, каб ён мог удосталь частавацца забароненымі рэчывамі ў свабоднай Еўропе.

Надоўга пакінуўшы Чэхію, наведаўшы толькі аднойчы Пражскі ўніверсітэт, хлопец пачаў сваю вандроўку па сквотах, панк-барах і закінутых дамах. І пакуль атрымліваў грошы і падманваў маці (а гэта з кожным днём станавілася ўсё складаней), ён думаў толькі пра кайф і пра тое, як гэты кайф атрымліваць своечасова і без перабояў.

Маці, калі на свае вочы пабачыла адсутнасць сына ва ўніверсітэце і праз сяброў знайшла яго ў Вугоршчыне ў стане жывога мерцвяка, не магла нават Богу маліцца, а толькі прамаўляла: «Сынок, сынок, сынок».

Менавіта тады Ілля вырашыў, што будзе мяняць сваё цела і пачне з татуіровак, і як мага больш брыдкіх і вусцішных, і каб яны былі паўсюль. І першае, што хлопец зрабіў, – гэта накалоў процьму слоў сабе на твар і зрабіў тату-рукавы на абедзве рукі з чарапоў і чортаў.

Потым трапіў у рэабілітацыйны цэнтр, дзе яго спрабавалі ратаваць замененымі аднымі на другія наркотыкамі (як пра гэта кажа Парацэльс: «Усё ёсць атрута і ўсё ёсць лекі, розніца толькі ў дозе»), ажно пакуль не вырашыў перавесціся з наркааддзялення ў аддзяленне для буйных суіцыднікаў, разрэзаўшы сабе рукі ад запясцяў да плячэй заточаным прутком ад спружыннага матраца.

– Ніколі ты, сынку, маці сваю не слухаў, а я ж, такая наіўная, але гэта таму, што заўжды цябе любіла, так цябе і песціла, і патворыла, што і не заўважыла, як згубіла цябе, цяпер гляджу на цябе і не пазнаю – твар увесь у татуіроўках, шнары паўсюль, – маці толькі заломвае рукі, стараючыся знайсці штосьці знаёмае ў гэтым брудным, патлатым мужчыне – штосьці з яго дзяцінства. – Кожны дзень Богу малюся, каб жывы быў, каб дамоў вяртаўся, каб працу знайшоў, каб я цябе пачала пазнаваць, бачыць свайго малога сынку.

– Ага, наконт бога твайго, я яшчэ спліт языка зрабіў, сам! – Ілля высунуў з-за частакола гнілых зубоў і развёў у розныя бакі дзве часткі языка, падобнага цяпер на змяіны. Правая частка кранулася брудных вусаў, а левая аблізала падбародздзе.

– О Госпадзі! – маці ажно падскокнула на зэдліку і пераажагналася.

Ілля з маленства не любіў вучыцца і ў школу хадзіў толькі таму, што там былі Ванька і Валька, якія заўжды маглі разам з ім замяніць урокі на пакупку патрэбных пігулак па рэцэптах, якія Валька цягала з татавага сэрванта, або алкаголю, які Ванька, са сваім дарослым, парослым шчаціннем тварам, набываў без пашпарта.

Спачатку рэчывы прыцягвалі праз забароненасць і такія яскравыя адчуванні, але пазней, калі арганізм ужо быў не здольны вызваляцца, маладыя людзі пачалі адчуваць адчайнае пахмелле, болі ў суставах, ломку ад недахопу патрэбных «лекаў».

Ілля праз туман у галаве рабіў сабе пірсінг бровах і вушэй – тады было не балюча. Потым ён пракалоў смочкі і нават нос, павесіўшы сабе кальцо, як у быка... Ну а потым усё зайшло так далёка, што хлопец пачаў нагадваць зялёна-сіняга кракадзіла, але яму было мала, ён займаўся, як казаў усім і самому сабе, «бодзі-трансфармацыяй», але па-праўдзе проста знішчаў сябе.

– Ладна, маць, слухай, я прыйшоў, каб памыцца, узяць колькі грошай, і заўтра я буду на працы.

– На якой працы? Ты сябе ў люстэрку бачыў? Ты ж падобны да чорта! Дзе ты будзеш працаваць? У цырку?!

– А ідзі ты ў дупу. Калі няма грошай, дай мне пажэрці і што апрануць.

– Я буду за цябе маліцца Пану нашаму Госпаду.

– І ён няхай валіць туды ж!

Ілля знайшоў падпрацоўку: трэба раз на тыдзень забіраць тавар, складзены з «міксаў», і разносіць па раённых хованках. Так званы бескантактны гандаль. Калі ён сустрэўся з дылерам, той доўга разглядаў гэтага чалавека-ячшара і потым прамовіў:

– Так, па раёне ты ходзіш у каптуры і з чорнай маскай, тату на руках таксама трэба закрыць, і гэта, пірсінг увесь зняць нахран, каб не звінеў мне на працы! І гэтыя лінзы... Гэта што, кашэчыя вочы? Каб зняў, і каб валасы ўсе абрэзаў коратка, пагаліўся... Мне патрэбны чалавек абсалютна адэкватны і незапамінальны. Заўтра пагляджу раніцай, як пачнеш працу, і там праверым цябе ў тэставым рэжыме. Будзеш ужываць тавар – заб'ю. Вось табе пару «калёс», пад імі табе будзе класна і не захочацца жэрці нічога іншага.

2.

Раніца. Снег. На вокнах дамоў тут і там міргаюць гірлянды, наклееныя выразаныя з паперы сняжынкі. У дзяцінстве перадсвяточныя дні былі самымі складанымі, бо накаляліся эмоцыі і нервы, пад канец года накручаныя ўшчэнт.

Ілля стаіць на рагу дома, пад якім трэба рабіць першую закладку. Барыга разглядае хлопца, які ўпершыню, з дзявятага класа, зняў нават першую сваю штангу з левага брыва.

Малады мужчына, паголены, падстрыжаны пад машынку, без метала, які б вісеў на целе і твары, без кашэчых лінзаў, татуіроўкі ўжо не выглядаюць страшнымі, акуратная ўцепленая вятроўка з капюшонам, пухнатая байка, чорныя джынсы і простыя кеды... Маці спадабалася б. Працадаўца застаўся задаволены і паручыў за дзень абысці дзесяць месцаў для закладак.

На трэцяй закладцы Ілля, стомлены ад пешых прагулак на доўгія, нязвыклыя для яго арганізма адлегласці, прысеў у невялікім парку. Пігулкі, якія ён раніцай прыняў, ужо не працавалі, хлопец сядзеў і вагаўся: ужыць адну з закладак і стаць уцекачом альбо неяк стрымацца.

Пакуль Ілля сядзеў і разрываўся паміж д'яблам і анёлам, да яго падышла маленькая котка і села яму на рукі. Котка лашчылася, муркатала, Ілля супакоіўся.

«Вось тут маці сапраўды была б задаволеная! Карціна алеем: яе валацуга-сын з коткай на руках, такі чысты, акуратны і без аніводнай дрэні ў скуры. Сапраўдны харашыст, толькі вось праца кепская», – Ілля ўсміхнуўся, коратка, прыгожа і сумна.

Праз хвіліну купка сасудаў у левай скроні лопнула, і хлопец адкінуўся на лаўцы назад, котка працягвала муркатаць на ягоных руках. Здавалася, ён прылёг адпачыць. Снег ішоў, такі мяккі, пухнаты, як кавалачкі ваткі.

Выглядаў Ілля, як заўжды хацела маці.

Дзякуй Богу, так і атрымалася.

*Чэрвень – ліпень 2021*
*Брно – Мінск*

# ПЛАСТЫЛІНАВЫ ЧАЛАВЕК

Памятай дзень суботні.
*Выхад 20:8–10*

1.

«Я так скажу: такога яшчэ не бачыў на свае вочы. Я працую дэктэктывам больш за трыццаць гадоў, але ў мяне няма адказу, што гэта за смерць. Я – Іосіф Томан, і мая жыццёвая задача – раскрываць забойствы. Але вось менавіта цяпер я не магу сказаць, што здарылася і на каго павесіць працу – паліцыю, судмедэкспертаў, псіхкансультантаў. Я толькі дакладна ведаю, што сам сабе чалавек так нашкодзіць не мог.

Я ўжо тры гады шукаю клуб «Чырвоны Д’ябал» – таемную суполку, якая спарадычна збірае людзей у матэлях, у парку альбо на полі іржы, і адбываецца штосьці страшнае – паводле рэшткаў крыві, мяса, тут і там пакінутых нажах, вілах, а аднойчы і галоўцы блэндара.

Можна сказаць, што навідавоку забойства аднаго і таго чалавека, які ўвесь час кудысьці знікае. Бо цела няма. Гэта гучыць, вядома, дзіўна, але ДНК паўсюль здымаецца адно і тое ж…»

Іосіф выключыў дыктафон. Ён абяцаў жонцы і дачцэ, што будзе запісваць свае расследванні і думкі для сацсетак… час патрабуе годнага кантэнту.

Дэтэктыў хацеў падабацца не толькі жонцы, але і дачцэ. Вось ён запіша расследаванне – зразумела, тэатралізавана і з купюрамі, і, калі гэта пачне карыстацца папулярнасцю, здзейсніцца штосьці новае ў іх сямейных зносінах. Жарты жартамі, але цяпер патрэбны не аматар, а профі, і каб дзяліўся сваім жыццём – так, здаецца, казала дачка.

Спадар Томан сеў на кухні і закурыў. Ён дакладна ведаў, што знайшоў тую самую ахвяру, якую шукаў тры гады, і нават не трэба праводзіць расследаванне. Ён убачыў рэчы, якімі чалавека каталі, на месцы быў і рытуальны стол, аднолькавае абсталяванне на якім сустракалася кожным разам, калі яго выклікалі на месца забойства: сухія кветкі, Біблія, надпіс «Чырвоны Д'ябал»… Але варта дачакацца вынікаў судмедэкспертызы. А цяпер у Іосіфа ёсць гадзіна: да таго як прыйдуць паліцэйскія, трэба ўсё навокал абшукаць.

2.

«Першае, што я знайшоў, і гэта вялікая знаходка, – мабільны тэлефон нябожчыка, ключы ад кватэры і пашпарт. Можна сказаць, я амаль раскрыў справу. Малады мужчына, якому належылі рэчы, – Давід Косаў, чалавек, які дакладна жыў няпростым жыццём. Кватэра напампавана Бібліямі, бінтамі, паракісам вадароду, і ўсё гэта назапашана вакол аднаго матраца, унутры якога я выявіў замест спружын, ваты і пер'я грошы – процьму банкнот.

Усе рэчы навокал не давалі мне ніякіх адэкватных адказаў. Я адчуваў, што трапіў на штосьці незвычайнае – сапраўднае жытло вар'ята.

Першае, што я зрабіў, – зняў адбіткі пальцаў, набраў у пакеты таго, што траплялася на вочы».

Іосіф выключыў дыктафон і працягнуў даследаваць аднапакаёўку, якая відавочна належала самотнаму мужчыну. Слядоў іншых людзей тут не было, як і нейкіх спроб банальна памыць посуд і вынесці смецце, перапоўненае аднаразовымі талеркамі і пластыкоўкамі.

3.

«На дадзены момант больш за ўсё інфармацыі я атрымаў з мабільнага, дзе быў толькі адзін тэлеграм-канал, які і меў назву «Чырвоны Д'ябал». Менавіта адсюль

Давід кіраваў сваімі людзьмі, ці хто яны там былі – замоўшчыкі, супрацоўнікі. Канал пусты, праглядзець падпісчыкаў немагчыма. Але былі фотаскрыны, захаваныя аўтаматычна у корань тэчак тэлефона, і вось тут было пра што падумаць: як я і падазраваў, фотасведчанні нейкіх крывавых рытуалаў. Давіда білі і рэзалі, ёсць нават фотаздымак павешання. Пакуль што мне няма чаго дадаць. Усё сведчыць пра тое, што Давіда катавалі, але гэта было, напэўна, па згодзе?!»

Дэтэктыў выключыў дыктафон. Падумаў... Моўчкі пакруціў тэлефон у руках, падышоў да супрацоўніка і аддаў, каб гэты апарат праверылі ўздоўж і ўпоперак: на званкі, паведамленні, інтэрнэт-старонкі.

Сім-картку дэтэктыў прадубляваў на іншы тэлефон – ёсць сэнс чакаць званкоў.

4.

«Злавіў я адзін званок, схапіў хлопца, пакуль той быў разгублены, раскруціў на сустрэчу. Усё атрымалася.

Высветлілася, што гэты Данііл – аднакласнік Давіда, і я адразу пачаў допыт. Хлопец сказаў, што бачыў Давіда тры гады таму, падчас аварыі: яны разам ехалі на матацыкле, і Давід не выруліў, Данііл выпаў, а Давіда працягнула па дарозе.

Давід выжыў, ачуняў – як быццам нічога і не здарылася. Паводле камер назірання, хлопца як па наждаку пранесла, а на ім у выніку ні драпіны.

Абодва адмовіліся ад хуткай дапамогі, абодва ўвечары сядзелі ў бары і адзначалі другі дзень народзінаў. І потым, калі вечар стаў позні, Давід пачаў згадваць, як ён і ногі, здавалася, ламаў, але аказвалася, што не, і як яго цягнік штурхануў у дзяцінстве – думалі, што памёр, і ў рэчцы тануў, і кожны раз, як высветлілася, усё здаралася па суботах... Здаецца, хлопцы намацалі нейкі таямнічы след да містычнага аздараўлення...

Шмат пра што тады яны пагутарылі, але пасля не бачыліся».

Іосіф выключыў дыктафон. У яго быў нарэшце адрас бацькоў Давіда, і тут ужо пачыналася штосьці цікавае.

5.

«Бацькі Давіда амаль нічога не змаглі мне сказаць, акрамя таго, што іх сын найлепшы ў свеце, і тое, што трэба абавязкова знайсці забойцаў.

Малады чалавек, відаць, захапляўся чорнай магіяй альбо рэлігіяй, і, магчыма, меў паслядоўнікаў, якіх збіраў, каб яго мучылі, як Хрыста».

Іосіф выключыў дыктафон і закурыў, седзячы ў бары. Да дэтэктыва падсеў незнаёмец, і яны вельмі хутка дамовіліся не толькі закрыць справу, але і цела спісаць у прыватную медыцынскую лабараторыю.

Так лёгка дамовіцца, калі ў апанента ёсць стрэльба ў руцэ, і калі табе даюць капэрту, і калі ты адчуваеш, што мужчына, якому патрэбны нябожчык, прыйшоў не адзін. Усе гэтыя акалічнасці пераканалі дэтэктыва, што варта заплюшчыць вочы і ісці на дамову дзеля сям'і.

6.

«Доктар Данііл Нэйман. Пачынаю даследаванне цела Давіда Косава: на момант смерці ён страціў шмат крыві, але гэта лагічна...»

Доктар Нэйман выключыў дыктафон. Ён павінны дэталёва даследаваць цела выбранага паводле шляху Бога і Д'ябла. Але ногі не трымаюць, скроні пульсуюць, рукі трасуцца...

А які гэта гонар! Займацца целам неўміручага, які ўсё-ткі памёр. Таго самага... Пластылінавага, вечнага, вялікага Давіда!

Доктар Нэйман паглядзеў на столь... Яны сапраўды часта здзекаваліся з яго: то крывю пускалі, то аварыю ўчынялі, аднойчы разагналі яго – і аб слуп... а то і кінулі з моста без тарзанкі. І назіралі, назіралі, як на іх вачах адбываецца суботні цуд – як загойваюцца любыя раны, як выпростваюцца паламаныя рукі і ногі, як вокамгненна становіцца на месца шыйны пазванок...

А колькі грошай аддавалі людзі, каб проста паглядзець, памацаць гэтае цела. Як шмат яны плацілі, каб паверыць!

Вось панядзелак – ламае палец, і той у гіпсе чатыры тыдні, нічога не заробіш. Аўторак – парэзаўся, калі шынкаваў капусту на салату, трэба накласці тры швы, загойваецца доўга, сапраўды доўга... Потым была серада – і сцёртыя калені пасля няўдалай паездкі на ровары. Чацвер – разбіты нос на баскетболе. Пятніца – фінгалы пасля вечарынкі ў бары сыходзілі месяц. І аднойчы здараецца ДТЗ такой страшнай моцы, што не выжыў бы ніхто, акрамя Давіда і мяне. Я саскачыў з матацыкла, а Давід паляцеў проста ў сцяну, па дарозе здзіраючы спіну і ногі ў фарш.

Добра, што я тады быў з ім, бо не даў бы веры святой субоце і Вялікаму акрыянню.

7.

«Паводле ўскрыцця.

Цела Давіда – проста космас.

Жарт.

Гэта проста цела пемарлага.

Нічога цікавага для «Чырвонага Д’ябла».

Нічога таго, што я так чакаў убачыць, няма.

Бога тут няма.

Часцінаў Базона Хігза няма.

Няма нічога, акрамя мяса.

Дзе той цуд?!

Неўміручасць?!»

Доктар Нэйман выключае дыктафон. Ён расчараваны, ён сціскае скроні.

Секунда цішыні...

Дзверы морга выносяць з такой моцай, што яны пралятаюць увесь калідор наўсцяж, а дзвярная каробка выпадае з цаглянай сцяны.

8.

«Дэтэктыў Іосіф Томан.

Справа забойства патолагаанатама Данііла Нэймана і знікнення цела Давіда Косава.

Відавочны ўзрыў металічных дзвярэй трацілам. Сам доктар памёр праз удар аб штосьці плоскае – напэўна, падлогу. Смерць наступіла амаль адразу.

Матыў пакуль незразумелы, бо знікненне цела шмат пра што можа сказаць, але ізноў навідавоку праца суполкі «Чырвоны Д’ябал».

Не для ўласнага карыстання».

Дэтэктыў выключыў дыктафон. Апошнія словы ён агучыў, бо так патрабаваў інспектар: цяпер ён не піша для сябе расследаванні. Сацсеткі яму хутка забаранілі, зразумела чаму...

Іосіф спрабаваў сабраць у адзін уцямны тэкст тое, што ён сёння даследаваў. Гартаў файлы, тэчкі, фотаздымкі на кампутары Давіда. Тут усё проста: сябры, дзяўчаты, падарожжы, серыялы, порна...

Камп’ютар звычайнага маладога чалавека...

Да таго...

Да аварыі, калі з'явіўся побач з ім гэты самы Даніїл – сябра з дзяцінства. Што там адбылося?

Дэтэктыў падняўся з месца і рушыў вонкі – пагартаць хроніку ДАІ і МНС.

9.

«Цяпер зразумела, што Давід выжыў, як маг, як, маці яго, Гары Потэр з палачкай. Там так усё расшкамутала, што шанцаў не было. Чаму на гэта ніхто не звярнуў увагі?! Таму што ягоны сябра – паталагаанатам з практыкай! Цяпер яны абодва нябожчыкі... Але цела аднаго з іх няма!»

Іосіф выключыў дыктафон. Ён накіроўваўся на сустрэчу з Давідам, якога, паводле апошніх звестак у адноўленым тэлеграм-канале «Чырвоны Д'ябал», абвясцілі першым і сапраўдным Святым Неба і Зямлі!

10.

«Гэта цела Давіда! А гэта крывя ягоная... Гэта ягонае бяссмерце, якое мы бачылі сто адзін раз! І цяпер мы гатовыя прыняць бяссмерце таксама! Мы, хто не давалі веры! Мы, хто столькі разоў мучылі яго, а ён на нашых вачах уваскрасаў! Мы вінаватыя, што ён загінуў праз нашу няверу! І мы вінаватыя, што зрабілі яго вечным і жывым ад веку!» – мікрафон проста рвало ад скрыгату неналаджанай тэхнікі, але ніхто не заўважаў, бо кожны, хто прыйшоў – а іх было два тузіны, – проста сядзеў і рухаўся ў такт, гатовы памерці альбо жыць вечна дзеля гэтай чалавечыны... – і няхай Давід праслаўляе святы дзень суботні, і цела ягонае падорыць нам ласку ягоную – быць неўміручымі таксама!»

Іосіф сядзеў сярод братоў і разумеў: канец расследавання яшчэ далёка, разблытваць клубок здагадак робіцца ўсё цяжэй, бо цела падазраванага ўжо амаль з'едзена. Раптам адна з жанчын падхапілася з месца і паспяшалася да прыбіральні.

11.

– Хто ты такі, – прахрыпела жанчына, калі дэтэктыў схапіў яе ззаду за шыю і перакрыў кісларод. – Хр-х... ахгха... ты чарговы фанатык Давіда! Адпусці... і скажу

тое, што прымусіць цябе зваліць адсюль, – Іосіф вырашыў застацца ў такой пазіцыі – фанатыкам.

– Давід ніхрана не святы. Так, ён паміраў процьму разоў, але гэта проста ягоная якасць, я яго ведаю з дзяцінства, просты чэл, мы з ім жылі разам... Баяўся павукоў і ад парэзаў мог плакаць! І ведаеш што? Добра, што памёр! Бо хопіць ужо!

Дэтэктыў сціснуў жанчыну зноў і ледзь не задушыў, бо не разлічыў сілу...

– Кажы, як ён памёр! – і адпусціў ёй крыху шыю.

– Ах, які ж ты фанатык, чортаў д'ябал, табе туды і дарога, да іх, есці мяса! Памёр ён, бо дурань, бо ўваскрасаў па суботах толькі, і за кошт гэтага зарабляў сотні тысяч баксаў, на якіх спаў!!! А гадзіннікі перавялі ў той ўікэнд! Разумееш?! Ён думаў, што яшчэ ёсць гадзіна суботы і на ім можна паэксперыментаваць за дадатковыя грошы: паназіраць, як ускрываюць яромныя вены, як яны за ноч загойваюцца і як паламаныя рукі становяцца спачатку пластылінавымі, а потым хоба – і няма пераломаў...

– Пра што ты кажаш? – шаптаў дэтэктыў, не даючы веры аніводнаму слову.

– А была ўжо гадзіна нядзелі! Разумееш! Нядзелі! А ён усё хацеў зарабляць на сваім бяссмерці!

Іосіф адпусціў шыю сваёй закладніцы.

– Што за фігня? – толькі і здолеў прамовіць дэтэктыў.

– І «Чырвоны Д'ябал» хай ідзе лесам, і ты, і Давід! А я дамоў. Заставайся тут, фанатык, *вкушай тело*, калі там ёсць яшчэ што, – жанчына з усяе сілы ўдарыла мужчыну паміж ног, хоць той яе ўжо і адпусціў...

Праз хвіліну непрытомнае цела Іосіфа браты завалаклі ў шацёр.

*Ліпень 2021*
*Мінск*

# ЦІХАЯ ВУЛІЦА

Шануй бацьку твайго і маці.
*Выхад 20:12*

– Мама! Я дома! І я пайду да сябе ў пакой! Усё добра, я не хачу абедаць! Я проста, бліна, хачу падняцца ў свой пакой!

– А ты ж тваю налева! Я ім кажу, трэба гэта неяк паскорыць!

– Тата! Адчапіся нахран са сваімі праблемамі!

– То ты прыўкрасная, бо паехала, а я зараз лягу тут!

– Я цябе не разумею! У мяне няма ніякіх праблем! Я хачу пабыць адна ў сваім пакоі!

– Дык, можа, табе кампотам у штаны? Направа ці што?!

– Я ж сказала, што не буду абедаць і ў мяне ўсё добра!

– А калі знайду?!

– Слухай, давай я паляжу, адпачну, а потым, калі ў мяне будзе настрой, увечары абмяркуем!

– Квітком памяняцца не можаш? Ці мне самому прыехаць падрэзаць?!

– Я ўсё яшчэ сустракаюся з Мікам, і мне не хочацца табе нічога пра гэта распавядаць!

– Дай, Божа, мне сілы, каб лёгка палётаць па міры!

– А хто мне ўжо можа даць спакойна пабыць адной у сваім пакоі, бліна?!

– Я ўсё чула, Марыя! Што за мацюкі!!!

– Ну мамаааааа, я не мацюкалася! Адчапіцеся ад мяне нарэшце!

Марыя ляснула дзвярыма, а бацька пайшоў на кухню да жонкі, абняў яе за талію і схапіў тое, што яна старанна наразала – рознакаляровую кактэйльную саломку.

– М-м-м! Гэта як пераплыць Ла-Манш!

– Ага, скажы гэта Марыі, яна лічыць, што гатую я кепска!

– Добра, што ты высокая такая, як вежа міру...

– От ты так заўсёды! Не каб праблему вырашыць, толькі зубы загаворваеш! – прамовіла жанчына, скінула з таліі руку мужа, павярнулася, адчыніла кухонную шафу, дастала пакунак мукі, высыпала яго на стол, наліла зверху піва, дастала парэзаныя пластыкавыя кружочкі і пачала ўсё гэта заварочваць у цеста. – Сёння будзе макарона! І я спадзяюся, усе будуць есці нармальна!!! – апошнюю фразу маці пракрычала так, каб было чутна на другім паверсе, але ў пакоі дачкі толькі зрабілі музыку грамчэй.

«Я не ведаю, як мне жыць тут, як жа мяне дасталі бацькі! Тупыя жывёлы! У мяне такое адчуванне, што я зусім не іх!» – пісала Марыя сяброўцы, а сама паралельна гутарыла з хлопцам, які штосьці ёй казаў з невялікага ваконца ў правым куце камп'ютара, але яна не слухала, што казаў ёй Мік. А да ўсяго яшчэ і тэлефон не змаўкаў.

«Кліпавае мысленне і немагчымасць сканцэнтравацца на адной справе», як казалі ёй бацькі, заміналі Марыі проста сесці, супакоіцца і падумаць, паразважаць моўчкі. Праз гэта яна яшчэ больш нервавалася.

– Я кажу табе, Мік, што сёння не магу сустрэцца, я стамілася ад нас і ты мяне дастаў. Мне трэба адпачыць. З'ехаць куды падалей! Табе толькі адно і трэба! Усё, давай! Гуляй! – Марыя адключыла хлопца і пачала гучна стукаць тэкст сяброўцы:

«Прыходзь сёння. Я адна звар'яцею тут».

– Марыя! Спускайся на вячэру! – крыкнула маці, наліваючы ў талерку дзіўнае рэчыва: абвараныя кавалкі мукі з расплаўленымі пластыкавымі трубачкамі... зверху ўсё пасыпала зямлёй з-пад кактуса, які стаяў пасярод кухоннага стала. – Марыя! Я паўтараць па сто разоў не буду! Хутчэй уніз!

– Як жа вы мяне дасталі!!! – раўнула Марыя спускаючыся.

– Гэт ты мне тут не тое! Ведаеш жа ж! Не адразу каб тут! Па срацы надаю! – бацька высунуўся з прыбіральні і вырашыў ізноў насварыцца на дачку.

– Што ты вярзеш?! Я толькі апошнія тры словы зразумела!

– Абанамат! Мацы яе за нагу! Зараз вазьму мячык і пакажу табе астэроід!

Бацька схапіўся за рэмень расшпіліў яго і выцягнуў са штаноў. У выніку атрымалася не вельмі: нагавіцы з'ехалі долу, і мужчына застаўся ў адных майтках. Марыя,

убачыўшы, засмяялася і аўтаматычна пацягнулася па тэлефон, каб сфатаграфаваць і потым сцябацца з сяброўкамі.

– Ах ты тваю направа! Пакладзі кран, інакш я не адказваю за пераезд!

Пакуль Марыя з бацькам гарлапанілі і бацька, заблытаўшыся ў нагавіцах, спрабаваў да дзяўчыны дацягнуцца рэменем, маці ціхенька сабе памыла замест посуду хлебніцу і тостар, акуратна абцерла іх ручніком, а потым з усёй моцы ўдарыла мужа па галаве лабутэнам. Мужчына закрычаў не сваім голасам, па лбе пацёк тонкі струмень крыві.

– Сядайце ўсе вячэраць! – прамовіла маці і пайшла на кухню.

Бацька яшчэ пагаласіў крыху, але хутка стаміўся і заглух.

– Лёня, пазвані сыну. Няхай ужо дадому едзе. Вячэра стыне, – прамовіла маці.

Лёня выцер рукавом скрываўлены лоб, узяў з тумбачкі мабільны тэлефон і набраў Віцю. Марыя села нарэшце за стол, але есці ёй зусім не хацелася.

– Мама, ну мамачка, слухай, не, я цябе шчыра прашу, згатуй штосьці нармальнае!

– Татку, можаш мне не званіць! Я ўжо дома! Галодны, як ваўкалак! – на парозе стаяў хлопец, трымаючы ў руках тэлефон.

– От мой харошы! – усклікнуў бацька і пайшоў насустрач сыну.

– А што гэта ў цябе галава ў крыві?!

– А гэта нічога!

– Ну то добра!

– Давай за стол!

– Ох, смаката сёння якая! – абрадаваўся Віця.

Бацька і сын ядуць і ад задавальненьня аж прычмокваюць. Маці, цалкам у сваіх думках, глядзіць кудысьці ў столь. Марыя спрабуе пазбавіцца ежы, невялічкімі порцыямі хаваючы яе то пад кубкам, то пад сурвэткай, а то і пад стол кідаючы.

Раптоўны грукат у дзверы, а потым настойлівы званок выштурхнулі сям'ю з вячэрняй ідыліі.

– Адчыняйце! Гэта паліцыя!

Адчыняць дзверы не трэба было, бо Віця іх не зачыняў. І перад сям'ёй Каральковых паўстаў высокі мужны паліцэйскі, які адразу выхапіў з кабуры пісталет, заўважыўшы, што мужчына за сталом увесь у крыві.

– Не варушыцца, усім пакласці рукі на стол, пакласці на стол, я сказаў! Прыборы ўбок, нажы, відэльцы, лыжкі – усё пакласці і потым рукі на стол!

Зрабілі так, як прасіў, а Віця, на свой страх, марудна ўстаў з-за стала і падышоў да паліцэйскага.

– У нас усё добра, пане... усё як мае быць, сэр... вы прыехалі да нас дарма, месье, – прамовіў сын, прыхапіўшы са стала батон. – Вось, трымайце, гэта мая дарагая матуленька выпякае. Цудоўны на смак! Вазьміце, я вас правяду да дзвярэй.

Мужчына паволі, але няўхільна, падпарадкаваўся падлетку, узяў батон і схаваў пісталет у кабуру.

– Добрага вам вечара, – прамовіў паліцэйскі і хлопнуў дзьвярыма. І ўжо на вуліцы звязаўся з дзяжурным: гэта быў памылковы выклік.

Так, праехаўшы колькі кіламетраў, паліцэйскі, нарэшце, спыніўся. Уключыў аварыйныя агні, выключыў рацыю, якая толькі замінала, і закурыў, не адкрываючы акно.

Праз пару хвілін мужчына заўважыў на суседнім крэсле батон. Узяў яго... Павагаўшыся, адкусіў.

Не паспеў разжаваць кавалак, як на зубы трапілася штосьці вострае. Мужчына выплюнуў хлеб на далонь і ўбачыў цвікі – маленькія цвікі для мэблі.

Спачатку паліцэйскі нават не здзівіўся, а толькі ўсміхнуўся. Ізноў адкусіў, разжаваў. «Гіпноз нейкі!» – завёў машыну, уключыў мігалкі, развярнуўся і пагнаў назад – на вуліцу Ціхую, 6.

*2020*
*Мінск*

# ПАЖЫРАЛЬНІК ЧАСУ

Не забівай.
*Выхад 20:13*

1.

Усё пачалося з таго, што ён дамогся ад класнага кіраўніка, каб заняткі па вайсковай падрыхтоўцы яму замянілі на кухарскія ўрокі з дзяўчатамі.

Адразу можна падумаць, што яго пачалі высмейваць усе хлопцы, і ён зрабіўся лузерам нумар адзін у школе, але гэта не так.

Самуіл быў такі прыгожы, дужы і маўклівы, што кожнаму станавілася вусцішна крыўдзіць яго, а калі мінуў месяц заняткаў, то хлопец увогуле здзівіў настаўніцу, прыгатаваўшы салянку такога незвычайнага смаку, якога ёй ніколі не даводзілася каштаваць.

Самуіл вельмі хутка вучыўся, і стравы ў яго атрымліваліся як з найлепшай гарадской рэстарацыі. Дзяўчаты жартавалі, што яму можна ўжо тут і цяпер, на вучэбнай кухні, выдаць шостую зорку Мішлен.

Самуіл слухаў сваіх аднакласнікаў, настаўнікаў і бацькоў, якія прарочылі яму вялікую будучыню шэфа ўласнай сеткі рэстарацыі, слухаў, але адчайваўся, бо смакі былі не тымі, што ён шукаў. Нездарма яшчэ малым падшыванцам Самуіл пачаў круціцца на бацькоўскай кухні, замінаць маме ля гарачай пліты, носам пацягваючы пахі і прыцмокваючы языком, асабліва ад бліноў, дранікаў і тушанай ялавічыны.

Самуіл нарадзіўся з незвычайным жаданнем смакаваць гэты свет, адчуваць тое, што недасяжнае астатнім. Немаўля высмоктвала матчына малако да кроплі, а калі навучылася есці само, нават дабаўку даядала. Дзіцёнак адзначыў на смак не толькі мэблю, але нават пакаштаваў ката, куснуўшы яго за хвост, засунуў залатую рыбку ў рот, а таксама... вядома ж, як без гэтага – машыну, арэлі, пясок, дрэва, асфальт, лядоўню ў краме, бляшанку з-пад шыпучкі, прыліплую жвачку ў кавярні...

Хлопец ужо гатаваў лепей за бацькоў, бабуль і дзядоў, лепей за шараговых сушыстаў і барыстаў, кухараў і кандытараў. Юнаком ён падпрацоўваў у найлепшых рэстарацыях і, калі б не шэфы, якія не дазвалялі яму гатаваць самастойна, даўно стаў бы на іх месца.

Самуіл перакаштаваў усе магчымыя ў яго краіне стравы: каперсы, смаўжы, жабіны ногі, сала з шакаладам, крэветкі, вустрыцы... з напояў нават каштаваў крупнік, па які ездзіў да ляснога пустэльніка, не кажучы ўжо пра самагон, нават па водары якога мог распавесці, дзе ды на якіх раслінах і кузюрках настоены.

Але ўсё было не тое. Самуіл адчуваў, быццам дзверы ўнутры не зачыняюцца.

2.

І вось аднойчы ў далёкай Друі абвясцілі фестываль ежы «Бізар фуд»: такі сабе альтэрнатыўны кухарска-магічны фэст, на які з'язджаюцца з усяго свету шаманы і людажэры, шэфы і траўнікі – і ўсе са сваімі сакрэтамі і стравамі.

На фэсце можна лёгка знайсці смажаных чарвякоў, жукоў і вусеняў, а таксама далікатэсы: мазгі шымпанзэ, сэрца акулы, суп з сабак і котак. Паядаюць усё, усіх і нават тое, што немагчыма паядаць – напрыклад, лайно ігуан і кажаноў: запраўляюць ім спагеці, як соусам, а каву заварваюць пасля таго, як яе пакаштуе і пераструвуе птушка Дадо.

Самуіл, вядома, выправіўся ў дарогу, захапіўшы сподняе і сталовыя прыборы, якія ён стварыў яшчэ падшыванцам у бацькавым гаражы, пераплавіўшы сёе-тое і вытачыўшы з астылага жалеза відэлец у выглядзе трохзубка, лыжку, што нагадвала маленькі апалонік, і нож з дзіркамі, высвідраванымі, каб лягчэй было рэзаць мяса і спускаць кроў.

«Бізар фуд» у Друі не расчараваў!

Першыя два дні Самуіл жор усё, што бачыў у шапіках, на сталах, у латках, самотных шуфлядках і нават пад стэндамі і ўнутры незнаёмых бляшанак.

Потым ён піў пігулкі і страўнікавыя каплі.

Потым ён піў напоі, назвы якіх забыўся ўшчэнт пасля кароткага, але моцнага тайландскага шота.

Потым ён спаў, як тройчы забіты, ягонае цела можна было лёгка падняць верталётам і адправіць у Амазонку – ён бы нічога не адчуў.

І калі мінула чатыры дні фэсту, калі Самуіл з'еў час і сілы, хлопец расплюшчыў вочы.

Не адразу хлопец сцяміў, што ляжыць у сваім лясным намёце, недалёка ад фэсту. Быў позні вечар, і Самуіл не разумеў, колькі гадзін праспаў.

Ачуняўшы, малады чалавек выправіўся на шпацыр уздоўж гандлёвых кропак, якіх позным вечарам засталося зусім мала.

3.

Раптам Самуіла паклікаў нейкі мужчына, целаскладам і барадой падобны да дрывасека, вочы былі раскосыя, а валасы кучаравыя. Мужчына назваўся Казбекам і прамовіў, што дакладна ведае, чаго жадае пакаштаваць Самуіл, бо такіх маладых мужчын, якія бадзяюцца па свеце, ён добра разумее.

– Смага ў цябе, дружа, з нараджэння, бо твая душа хоча іншага, і першы крок да сапраўднай асалоды і разумення жыцця палягае праз пяць смакаў, якія табе трэба па чарзе раскаштаваць, і я клічу цябе, запрашаю ступіць на першую прыступку, я магу быць тваім пачаткам! – Казбек шмат гаварыў, і Самуіл разумеў праз слова, але падпарадкоўваўся, нібы сумленнае даверлівае аленяня, якога маці вядзе ў невядомасць.

За шапікам стаяў стары пікап, у які са скрыгатам і рыпам абодва селі на задняе сядзенне.

Там, у цемры, Самуіл адчуў жыццё, якое паступова згасала. Хлопец не ведаў, як патлумачыць гэтае адчуванне, але ўся скура напружылася, быццам узнятая дыбам поўсць.

Мужчына загадаў хлопцу не варушыцца і папрасіў пакаштаваць тое, што хавалася ў ягонай руцэ.

Гэтае штосьці было цёплае і рухавае, нават калі Самуіл адкусіў і пачаў жаваць.

Яшчэ ніколі ён не адчуваў такой асалоды.

Ён быў блізкі да таго, каб зачыніць унутраныя дзверы.
– Што я толькі што з’еў?!
– Жывое.
– Што?! Ты даў мне жывое? У сэнсе, нават не забіў?
– Ага.
– Лепей не кажы, што гэта, але я хачу яшчэ, я заплачу колькі скажаш.
– Добра, але, каб раскаштаваць, трэба стаць паляўнічым. Трэба навучыцца забіваць. Забудзься на сваё сэрца – і пачнеш знішчаць чужыя.

4.

Казбек і Самуіл перабраліся ў густыя лясы Еўропы, дзе, упалёўваючы дзікіх жывёл і насычаючыся тахкаючымі сэрцамі, павольна прабіраліся да цёплых мораў.
Удосталь напаляваўшыся і нават прабавіўшы сезон маракамі на судне, пакуючы ўлоў і таемна каштуючы рыбныя сэрцы, мужчыны сталі на зямлю. Часу згубілі шмат, а да канца шлях не прайшлі. Цяпер, калі Самуіл ведае смак жывога, надышла пара раскаштаваць невядомае: у гушчары балтыйскіх лясоў адшукаць папараць-кветку і, размяўшы ў далонях, з’есці не запіваючы, – так дзверы пазнання адчыняцца яшчэ шырэй.
– Казбек, я раней не задумваўся, але цяпер я маю пытанне: Ты хто такі і навошта табе я, калі ты сам здольны...
– Я – твой цень, а ты – мой, і мы прызначаныя, каб разам адолець шлях Быцця. Я цябе доўга шукаў, амаль стагоддзе мінула, як я то паскараў час, то запавольваў. Але мне трэба правесці твой дух праз вопыт смакаў, каб самому атрымаць свабоду ад існавання!
– Я цябе не разумею, сур’ёзна.
– А гэта сапраўды, Самуіл!
Так яны, адвеславаўшы дзве гадзіны, апынуліся на кантыненце, і перад імі паказаўся старажытны лес, гушчар якога не прапускаў ні промня.

5.

Знайсці папараць-кветку было не складана – яна нагадвала свячэнне маленькіх кропелек расы.

Самуіл і Казбек цёрлі ў далонях праменьчыкі і закідвалі ў рот, прабіраючыся ўглыб лесу.

І вось папараць-кветка перастала сустракацца, мужчыны стаміліся і палеглі хто дзе. Мох пад імі быў мякчэйшы за вату, пяшчотнейшы за шоўк – яны хутка паснулі, аточаныя дыханнем грыбоў і начных раслінаў.

Самуіл бачыў у сне маці. «Самуіл, Самуіле, Сёма мой любімы, а чаго ж ты дадому не ідзеш, куды цябе занесла? Мама сумуе, гадзінамі ў вокны глядзіць».

Самуіл спрабуе маці патлумачыць, вельмі радасны, што нарэшце знайшоў блізкія яму смакі і дзеля іх трэба ўсяго толькі! Э! Хлопец упершыню разумее, што не ведае, як патлумачыць, што яму ўсяго толькі трэба забіваць.

Самуіл рэзка прачынаецца і бачыць сябе парослым мохам і грыбамі, аточаным воблакам гнюсу.

– Казбек! Уставай! Колькі мы спалі?!

Казбек паварочваецца на другі бок, тварам да Самуіла, і малады чалавек заўважае: пад павекамі мужчыны зрэнкі прамавугольныя, як у казы, што жыла ў ягоным дзяцінстве ў бабці. Міргнуў – і відзеж знік.

– Мы з табой перабралі з забаронамі. Разумееш, есці тое, што падабаецца, – гэта губляць чалавечае жыццё і аблічча. Падсілкаваліся папараць-кветкай – і нашай ахвярай апынуўся час. Недзе пяцьдзясят год сабе наелі, таму, каб вярнуць крыху моцы, зараз назбіраем зёлак і грыбоў, упалюем гнома, – Казбек хутка апынуўся на нагах.

– Каго ўпалюем? Я не разумею паловы таго, што ты кажаш!

– Але ж, хлопча, прыпыніся крыху! Табе спадабалася, што я табе даў?! А я не прымушаў цябе ісці за мной, але ты дух – і твая душа гэтага жадае. Таму бяры і шукай што трэба, каб згатаваць гнома!

– Што шукаць?!

– Табе страўнік падкажа, што шукаць.

– Мне снілася маці, я хачу яе ўбачыць.

– Хех. Хлопча, сказаў бы ты раней… унукаў ёй жа не пакінуў?

– Не.

Казбек засмяяўся.

Цэлы дзень яны назапашвалі расліны, карані і грыбы. Казбек рыхтаваў лоўчую сетку. І вось настаў вечар. Сетку прымацавалі над купай кветак нябеснага колеру.

– Вось зараз прыйдзе гном, убачыць свае кветкі, і захочацца яму ажывіць іх, вярнуць зямлі колер неба, – кажа Казбек, перамінаючы ў далоні корань, падобны да маленькай дзіды.

Прамінула шмат часу – і адначасова імгненне, – як у купцы заварушыўся чалавечак памерам з невялікую котку.

Казбек пратыкнуў кветкі тузін разоў.

6.

Немагчыма апісаць, як яны гатавалі кагосьці падобнага да краля і дзіцяці адначасова. Але рытуал быў выкананы, і ўпершыню Самуілу было так смачна і моташна. Хлопец разумеў, што збочыў не туды. Гном, такі безабаронны, жывы і падобны да яго, прымусіў гэта ўсвядоміць.

– Ты глядзі, цяпер нам трэба ў краіну мёртвых, там мы з’ядаем Жар-Птушку, разам з ёй згараем, ператвараемся ў попел, і пасля ўжо новае кола жыцця! Ты не паверыш, Сёма – можна цяпер так цябе зваць? Ты не паверыш, колькі разоў я спрабаваў дакрочыць да гнома, і нічога не атрымлівалася! А тут ты, такі падарунак для мяне!!! Я стаміўся ад гэтага жыцця, я хачу новага!

– Мне трэба вяртацца дадому.

– Табе ўжо мала што трэба, паглядзі на свае рукі, хаця б і ногі – куды ты.

Самуіл глядзіць на сябе, ссохлага, састарэлага, а ў галаве пульсуе толькі адно: «Жар-Птушка».

7.

Ачуняўшы, Самуіл убачыў, як Казбек закопвае рэшткі гнома і туды ж закідвае патухлае вогнішча, аб’едкі зёлак і грыбоў. Хлопец чуў, як мужчына нешта казаў сабе пад нос, але разабраць мог толькі слова «нічога», якое гучала рэфрэнам.

Самуіл апускаецца на калені і ціха-ціха, па-сабачы, пачынае красціся падалей.

Крокі, коўзанне, перасоўванне рук – усё такое павольнае, цяжкае.

Ліпучы халодны пот…

Збегчы хутчэй дадому!

І тут ён чуе, як гукае Казбек…

«Ты не патрэбны мне болей, жыві як хочаш, цяпер я без цябе, ты здаўся!»

«Ага», – кажа сам сабе Самуіл і аддаляецца ўсё далей і далей...

...паўсюль мёртвыя птушкі, жывёлы, згнілыя кветкі, паламаныя дрэвы...

Ён дакладна памятае, што рабіў перапынак, што падсілкаваўся нейкай жывёлай, дакладна жывой, бо тая была цёплая і жвавая, а гэта, вядома, лепей за ежу халодную і нерухомую...

Самуіл, стомлены, як ніколі ў жыцці, даходзіць да светлай паляны і бачыць пень – прыгожы такі, утульны, нібы фатэль.

Садзіцца хлопец...

Як раптам з'яўляецца стары і навокал пачынаюць збірацца шэрагі людзей – кагосьці ён ведае, а кагосьці зусім не.

Самуіла абступаюць, а дзядок кладзе яму далонь на плячо:

– Ты, відаць, налупіўся мярцвячыны, хлопча, што здолеў знайсці гэты пянёк, – сумна ўсміхаецца стары лепрыкон, – дурная твая галава, што за Шайтанам бадзяўся. Ад забітага жывым не станеш! – Самуіл спрабуе сфакусаваць зрок, але нічога не атрымліваецца, заплюшчвае вочы, намагаючыся патлумачыць, што проста шукаў самы незвычайны смак на свеце.

*2020*
*Вільня / Мінск*

# КАЛЕКЦЫЯНЕР ЖАРСЦІ

Ня чыні перaлюбу.
*Выхад 20:14*

1.

Пра тое, што горад становіцца цесным, апавядаюць стасункі з жанчынамі. У ложку пачалі трапляцца паўторкі – тыя, каго я забыўся, але мой персанальны архіў – не. Вось і атрымліваецца: калі спатканне дакрочвае да ложка, аказваецца, што гэта ўжо другі раз. А паводле майго правіла жыцця, другога разу не бывае, як не бывае адносін з былымі. Што мінула, тое мінула. Перагортваем старонку – і ў новы шлях.

Я пішу сваю сагу для нашчадкаў: каб ведалі, што існаваў сапраўдны геній спакусы. Мой рэкорд ад знаёмства да сэксу – тры хвіліны. Столькі часу мне спатрэбілася, каб у бібліятэчным ліфце націснуць на *стоп* і авалодаць неверагоднай мілфай – кандыдаткай прыгожых мастацтваў, якая паехала са мною не толькі ў архівы, але і на Парнас Жарсці.

Я калекцыяную жанчын, збіраю самыя смачныя моманты ў архіў: фота, тэксты пра плюсы і мінусы ў ложку, кароткія характарыстыкі. Хачу, каб Казанова назаўжды быў сцерты з гісторыі, каб маё імя – Самсон Покэ – было ў аналах гісторыі.

Мы сядзелі у кавярні, калі сябра – адвакат, сацыяпат, неўролаг і мазгапраў Саламон – сказаў:

– Самсон, тут ты ўжо выканаў сваю справу. Калекцыя жанчын перавышае тры тысячы – больш сапраўды няма чаго лавіць. Як твой дарадца, раю змяніць горад,

а лепей – краіну, каб калекцыя любошчаў і надалей спакойна пашыралася, як і слава пра тваю нястомнасць у каханні. Ты не можаш больш без наступстваў каго заўгодна класці ў ложак – занадта шмат пра цябе ведаюць. Тым болей пасля таго, як ты дадумаўся ачмурыць жонку прэзідэнта інтэрнацыянальных гатэляў і казіно, табе і пайсці няма куды на эратычнае паляванне.

Ужо ў машыне я адчуў, што мяне ахоплівае паніка. Сказаў свайму кастаалому, што тэрмінова трэба зрабіць прыпынак у бліжэйшым матэлі і скарыстацца любой жанчынай: гэта мяне супакоіць на шляху ў новыя абдымкі. Сябра пагадзіўся. Ён заўжды пагаджаецца: пасля сэксу я падрабязна пра ўсё яму распавядаю...

2.

У нас з сабой былі наручнікі з пухнатым пер'ем, складны ложак, колькі пледаў, падушкі, шаўковыя пеньюары, калёсы ад цяжарнасці, розныя шмаравідлы, імітатары, відэакантэнт, а таксама валіза з адзежай для ролявых гульняў. Мы прыехалі ў горад, старая назва якога была «Чорны Двор», але цяпер, пасля катаклізмаў, войнаў, хвароб і крызісу, жыхары павінны нарэшце жыць шчасліва, таму і назвалі сваю зямлю «Святыя Горы».

Менавіта святасці ў жыцці мне і не хапала. Хто не памятае чорнага і скрушнага мінулага гэтага горада, той папросту не паедзе наведваць нейкіх святошаў. А той, хто добра вучыў гісторыю ў школе, разумее: менавіта ў такіх месцах і жыве сапраўдная жарсць, першародны грэх.

Што трэба чалавеку, які спасціг камасутру і тантру? Вядома, новая кроў...

Прадчуванне кайфу і ёсць самае моцнае ўзбуджэнне!

Толькі на пяты дзень да мяне дайшло, што ўсе ложкі разламаныя, а ніводная валіза не распакаваная. Калі скончыліся жанчыны па выкліку, якія працавалі легальна і плацілі падаткі, калі скончыліся жанчыны, якія працавалі нелегальна і без медычных даведак, я ўзяў адпачынак. Распакаваў валізы, заплаціў за новы ложак і чыстыя прасціны, а таксама аплаціў новыя тэлевізар, кухонны стол, крэслы, шторы і міні-бар.

Я спаў ужо другі дзень, калі мяне пабудзіў Саламон і параіў выйсці ў горад – нас чакаюць новыя цёплыя жанчыны. Сябра зняў мне чорны мэрс, і праз гадзіну я быў гатовы.

3.

Мая калекцыя за тыдзень папоўнілася на дзве тысячы трыста адну. Я адчуваў сябе пустэльняй, якая сумуе па дажджы. Дзякуючы Саламону, пастыру майму, атрымаў джакузі з неверагоднымі масажысткамі, якія мяне мялі, потым мылі, потым лашчылі, ізноў мялі, мылі, лашчылі… Ажно пакуль я не пажадаў наведаць кавярні, рэстарацыі, музеі і бібліятэкі, каб пакінуць ад святасці толькі чорныя расчараванні і цьмяныя напаміны.

Я апрануў гарнітур, акуляры і сеў у майбах…

4.

Гэта Саламон. Мінуў трэці месяц, як Самсон не выходзць з кватэры. Мы вярнуліся з нашай «кругасветкі», не праехаўшы ўсе запланаваныя мясціны.

Свае нататкі Самсон выкінуў, але я знайшоў іх на вулічным сметніку. Я дапісваю яго гісторыю, каб сведчанне пра гэтага чалавека засталося ў аналах чалавецтва, ці як ён там кажа…

Архіў у мяне. Я, шчыра кажучы, і да сярэдзіны не дайшоў – вечна ў мяне сама-стрэл, пакуль чытаю і разглядаю фоткі…

Мая місія – не толькі забяспечыць майму пану камфорт. Я павінен скончыць тое, што ён распачаў. Мой спадар здаўся, але не прайграў, бо такія, як Самсон, ніколі не гублялі сваёй моцы да канца… Я спыняюся, але не стаўлю кропку.

Пакуль што Самсон зачыніўся пасля чарговай спробы сустрэцца з Асяй…

Мы былі на сярэдзіне шляху, кожны новы горад – сапраўдная эйфарыя. Да канца незразумела, што адбылося. Правёўшы гадзіну ў музейнай зале імпрэсіяністаў, Ася паехала з ім у гатэль. Я за імі не паехаў – мяне адправілі па алкаголь, гумавую абарону, лубрыканты, садавіну і вэнджанае мяса. Праз трыццаць хвілін Самсон пазваніў. Ён крычаў і плакаў, захлёбваўся і скавытаў, голас яго зрываўся…

Я кінуўся ў гатэль, разумеючы, што сёння вечарынкі не будзе. У нумары я знайшоў стэрыльную чысціню і Самсона – на засланым ложку.

Што з ім зрабіла Ася, я не ведаю. Тады ён казаў, што ў іх нічога не адбылося, яны нават не цалаваліся. Цяпер ён амаль не ўжывае ежы, п’е толькі ваду і моліцца, каб гэтая страшная жанчына, гэты сукуб, вярнулася да яго.

Ася колькі месяцаў запар дазваляла раз на тыдзень сустракацца і трымаць яе за руку…

Самсон рыхтаваўся да гэтага тыдзень! Сліну пускаў, казаў, гэта неверагодна – глядзець ёй у вочы і трымаць за руку! Мой сябра нават пачаў складаць вершы – нейкія дзіўныя і змрочна-светлыя. Пра смерць і каханне, пра вечнае жыццё.

І вось, я пішу, бо яны трэці месяц не бачацца…

Трэці месяц Самсон памірае…

Ён пагаліў галаву, бровы і грудзі…

Кожны дзень тройчы мыецца: раніцай, днём і ўвечары. Кажа, што трэба ачысціцца.

Ася павінна вярнуцца да яго, хаця б проста каб трымацца за рукі… Але штосьці мне падказвае, што ёй ужо дастаткова таго, што Самсон сам трапіў у яе прыватную калекцыю…

Кропку не стаўлю, бо спадзяюся

*Жнівень – верасень 2021*
*Белыя Лугі / Мінск*

# ВЫНАХОДНІК СКАРБАЎ

Ня крадзь.
*Выхад 20:15*

1.

І быў Якаў геніем.
Быў ён самотны, і не ведаў радасці, акрамя багацця.
Быццё Якава кірунак мела просты...
Рэжым быў ягоным галоўным выбарам: таталітарны, масачны, абедзенны рэжым на сон, тэхналагічны, узлётна-пасадачны і, вядома ж, самы любімы – хуткасны.

2.

Якаў клаў у кішэні ўсё наваколле.
Першым быў маленькі алавяны салдацік з дваровай пясочніцы. Малы доўга шукаў сваю цацку. Дапамагалі і бацькі, і іншыя дзеці.
Якаў назіраў і адчуваў перамогу: ён тут, побач, злодзей і махляр, а ніхто і не ведае.
Якаў мусіў абраць гэты шлях – кішэннае наваколле. І наступным днём скраў машынку – адну, маленькую. І гэта было добра, і гэта атрымалася...
Пазней для здабыткаў спатрэбіўся заплечнік на кожны дзень.

3.

Якаў карыстаўся закінутым склепам, пакуль адной вясной той не затапіла і скрадзеныя рэчы не выплылі. Сварак і плётак тады было процьма.

Потым з'явілася здымная кватэра, у якой пачалі хавацца скарбы.

Малады чалавек жыў за кошт штодзённых, як рытуал, крадзяжоў.

Якаў выглядаў выкшталцона: гарнітур, чэлсі, на левай руцэ – гадзіннік, у правай – стальны тэрмас без кавы.

Тэрмас ратуе нават ад металашукальніка – правяраў у аэрапортах.

4.

І быў вялікі дзень, калі Якаў скраў шматпавярховік, схаваў у ім свае скарбы і прадаў...

Людзі, якія засяліліся ў гэты навабуд, тут і там знаходзілі залатыя бранзалеты, гадзіннікі, завушніцы... Падымеш плінтус – новы айфон і пярсцёнак, пачнеш здымаць шпалеры, а пад імі слой паперак эўра.

5.

Якаў выкарыстоўваў урны на могілках. Паштовыя тумбы. Сметніцы. І кепска зачыненыя паштовыя скрыні.

Якаў насыпаў манеты ў вазок з немаўлём, і, псіхануўшы, выкінуў тузін залатых гадзіннікаў гарадскому музыканту.

Якаў падымаўся на дахі дамоў – і манеты дажджом сыпаліся на галовы мінакоў, дваровых алкаголікаў і бабуль. А потым лавінай абрыньваліся купюры.

6.

Якаў краў...

Пакоі Якава поўніліся паперамі, кардонкамі, тканінамі з адмаляванымі горнымі масівамі, пушчамі, пустэльнямі, трапічнымі лясамі, рэкамі, камянямі, будынкамі, шкілетамі старых машын і караблёў, курганамі, пагоркамі... І паўсюль крыжыкі, кропачкі, пазнакі – каб не згубіць той скарб, каб да яго дакрочыць, даплыць, даляцець.

7.

На схаванай выспе кругласуткава працавалі бульдозер, дрон і трактар.

На выспе адбываўся самы сапраўдны рытуал скарбаў, на які ўжо папросту не хапала мапы.

Якаў стаміўся.

Якаў жыў.

Якаў знойдзе сілы для існавання...

8.

Тузін бедных краін з радасцю прадаліся на прыемных умовах.

Якаў засыпаў краінам вялізныя катлаваны грашыма і паставіў мясцовых на ахову. Адразу знайшліся незадаволеныя фактам продажу.

Якаў сказаў, што няхай хоць перагінуць за гэтыя скарбы!

9.

Адным вечарам Якаў зразумеў, што багацце – яшчэ не ўсё, што яму трэба.

Якаў вырашыў паставіць сабе помнік. Адкапаць колькі схронаў з золатам і паставіць на месцы Эйфелевай вежы свой першы помнік. А пасля – заставіць імі ўвесь свет.

З французамі дамовіцца лёгка. Біткоіны патрэбныя ўсім.

10.

Якаў убачыў сон.

Статуя Свабоды. Хрыстос з Каркаваду. Радзіма-Маці. Кожны сышоў са свайго нерухомага месца. Каб пакланіцца Якаву.

Якаў прачнуўся.

Крыху прыўзняўся.

Плячо пяшчотна кранулі.

«Т-с-с-с, спіце спакойна».

11.

І быў дзень, і была ноч, і была раніца, і быў вечар, і былі грошы, якія вымалёўваліся ў паветры, і быў чалавек, ягоны гонар, план на жыццё, смерць і жыццё вечнае.

Але Якаву было мала.

Бо скарб – гэта доўгі сон. Ажно пакуль не адпачнеш.

*Кастрычнік 2021*
*Кветкі Яблыні / Мінск*

# ВЯЛІКІ КАНТРАЛЁР

Не кажы ілжывага сьведчаньня
на блізкага твайго.
*Выхад 20:16*

∞

У самалёце, што ляцеў праз Маскву, Гану і Турцыю ў Варшаву, не было вольных месцаў.

Межы з усіх бакоў свету закрытыя. Даводзіцца падарожнічаць рэбусам, пазлам...

Апошнім зайшоў у самалёт Кантралёр, які па звычцы наабяцаў, каб яму паверылі, ну і каб самому было ўва што верыць

Заробкі скончыліся, а дажыць да новай пяцігодкі неяк трэба. Але гэта нельга агучваць, бо гнеў, мітынгі, выбары – набор сапраўднай дэмакратычнай нявыкруткі.

У самалёце панавалі роспач і татальны кантроль. Роспач – бо невядома, што далей. Кантроль – вы ж самі ўсё разумееце.

Аднак быкам не разважалася моцна. Усе як адзін сумавалі па сілавых практыкаваннях. Нібы дзеці, тузаліся, заціскалі галовы, цёрлі макаўкі... Кожнаму красаўчыку хацелася адкаркаваць белага сухога віна. Дзе-небудзь не тут.

Матэматычка глядзела на ўсё наваколле праз пальцы, думала толькі пра свой утульны дом на радзіме роднай, і моцна хацелася ёй нарэшце перагарнуць гэтую гнюсную старонку, якая зліплася, быццам клубнічным джэмам намазаная...

Раптам Кантралёр са скрыгатам, рыпам і трэскам падняўся, скінуў з ног, як шалудзівага сабаку, Азазэля, адпіхнуў жалобшчыц, што плачам цешылі дыру яго сэрца, паправіў парык, які так ладна маскаваў яго, прайшоўся туды-сюды, ацаніў маштаб абслугі і, задаволены, павалокся ссаць...

Сусвет раскалоўся, планеты пасунуліся, час змяніўся.

Сказаць, колькі ляцеў самалёт – дзве гадзіны, два тыдні альбо два месяцы, – было немагчыма нават для пілотаў.

І вось адной авечцы захацелася ў прыбіральню так, што хоць воўкам вый.

Прыбіральня свеціць чырвоным на экранах і на дзьвярах.

Трэба адчыняць Кантралёра.

Каму прыпёрла, той і адчыняе.

У руках трэслася адвёртка...

Хацелася плакаць...

Памерці...

Нарэшце, дзверы адчыніліся...

Кантралёра нідзе не было.

Зазірнулі пад сядушку. Паглядзелі пад рукамыйнікам. На ўсялякі выпадак праверылі сметніцу.

– Ну не ў парашу ж яго засасала! – крыкнуў хтосьці з суддзяў.

І калі кожны асэнсаваў, што герой сапраўды знік, растварыўся ў вакуумнай прасторы самалётнай прыбіральні, усіх прарвала! Настала свята між самалётных радоў: пачалі абдымацца, весяліцца. Усе забыліся на ўсё: крыўды, сваркі, падманы.

А праз хвіліну здарыўся часавы хлапок – выкінула гэтых гаротнікаў назад у момант, калі Кантралёр падымаўся ў прыбіральню. Але было ўжо не так страшна – усе ведалі: д'ябал хутка знікне, як бы ён цяпер ні стараўся спапяліць позіркам кожнага, хто ляцеў у Варшаву.

*Верасень, 2021*
*Кастэльфранка Венета*

# ВАЛАДАР ЖАДАННЯЎ

Ня прагні жонкі блізкага твайго.
*Выхад 20:17*

1.

У дзяцінстве маці казала Майсею: ўсё, што ён пажадае, будзе ягоным. Галоўнае – крокі, якія ты робіш да свайго жадання. Майсей разумеў, што, каб чагосьці дасягнуць, каб атрымаць ад жыцця падарункі, трэба іх спачатку заслужыць.

Калі хлопцу было васямнаццаць, ён жадаў толькі адзінага – паступіць у медыцынскі ўніверсітэт, каб вывучыцца на хірурга, насіць паўсюль з сабой скальпель і ніткі і, калі раптам камусьці стане кепска на вуліцы альбо ў кавярні, адразу выратаваць чалавека, зрабіўшы паспяховую аперацыю на адкрытым сэрцы альбо прабіўшы трахею падчас ацёку Квінке. Хлопец далёка заходзіў у сваіх марах: уяўляў, як выратуе жыццё сваёй каханай, як будзе ўсім на свеце дапамагаць – дзецям, цяжарным, старым...

У Майсея з'явілася звычка загадваць жаданні, калі супадалі хвіліны і гадзіны, калі на небе – скрыжаванне ад вадароднага следу праляцелых самалётаў. Хлопец лічыў цотныя крокі да школы і назад, і, калі супадала, загадваў жаданне. У яго ўдала атрымлівалася накручваць на палец любы знойдзены волас і на няцотным коле загадаць знайсці, напрыклад, манетку, як адразу оп – і праз два крокі тырчыць

капейка. Дробязь, вядома, але істотная рэч для тых, хто практыкуе валадарства над жаданнямі.

Хлопец выявіў, што лепш за ўсё яму падпарадкоўваюцца жаданні на Новы год: калі ўсе падымаюць келіхі і кілішкі, можна загадаць што заўгодна, і гэта здзейсніцца. І не абавязкова ў яго. Так адбылося з цёткай Лёдзяй, якая тым святочным вечарам гасціла ў іх: праз месяц выйграла ў супер-лато фальксваген, пра які марыў у навагоднюю ноч Майсей. Так здарылася з малодшым братам: Леў гуляўся ў двары, як да хлопчыка пад'ехаў на шалёнай хуткасці незнаёмец, папрасіў патрымаць ровар, пакуль сам збегае ў суседні дом. «Адна нага тут – другая там». Не вярнуўся… І з'явіўся ў Льва горнік, які загадаў паўгоды таму Майсей. А неяк, пад канец года, Майсей пажадаў новую кватэру маме, і ёй сапраўды ўвесну далі вельмі зручную іпатэку.

Пакуль што Мося не ведаў: яму проста шанцуе ці ўсё спраўджваецца па веры. Але юнаку і не хацелася асабліва разважаць над гэтым.

2.

Хлопцу лёгка атрымалася паступіць у медыцынскі, але і тут без цуду не абышлося.

Калі ўсе іспыты былі здадзены, Майсей высветліў, што яму не хапае аднаго бала, каб трапіць на бясплатнае навучанне. А грошай у яго няма… Ва ўніверсітэце быў абвешчаны дзень збору абітурыентаў, каб агучыць правілы паступлення і распавесці пра адзінае бясплатнае месца, на якое прэтэндавалі пяцёра.

І вось раніца. Рэктар агучвае прозвішчы пяці прэтэндэнтаў. «Сярод прысутных – трое іншагародніх, двое з няпоўных сямей і адзін абітурыент сірата. Такім чынам, вырашана, што сірата мае права на бясплатнае месца. Прашу вас падняцца, каб я ўбачыў і мы з вамі дамовіліся на афармленне дакументаў!»

Усе навокал заварушыліся, каб паглядзець на гэтага шчаслівчыка, але ніхто не падняўся… Рэктар некалькі разоў звяртаўся да поўнай залы, але абітурыент-сірата кудысьці знік.

Тады спадар рэктар сказаў, што вымушаны аддаць бясплатнае месца наступнаму па чарзе – хлопцу з няпоўнай сям'і. І другім разам адбылося тое самае – ніхто не ўстаў.

Трэцім разам прасілі падняцца абітурыента з вёскі, і таксама – цішыня, толькі галовы ў розныя бакі круцяцца, спрабуючы пазнаць таго самага, сацыяльнага.

Нарэшце рэктар перастаў вышукваць патрэбных людзей і наўпрост спытаў, хто застаўся з пяці прэтэндэнтаў. І Майсей падняў руку...

3.

Вучоба ў хлопца пайшла шпарка. Паўсюль, куды трапляў Майсей, ягоным сябрам было весела – нейкае быццам свята надыходзіла, таму яго хутка празвалі Мося-Елка, бо гэта было адначасова і смешна, і неяк так, па-навагодняму.

Маладзёну лёгка пазычалі грошы, і вось што дзіўна: яму ўсе казалі адно і тое ж – не вяртай.

Хлопцу падабаліся дзяўчаты... Дакладней будзе сказаць, што яму падабаліся ўсе дзяўчаты навокал, і недахопу ўвагі ад іх у яго не было. Майсей хадзіў з кабеткамі ў кіно і кавярню, на шпацыр, запрашаў да сябе дадому і быў удзячны за пяшчоту, якою яны з ім дзяліліся.

Час ішоў, набліжалася інтэрнатура, Майсей сталеў... У яго з’явілася файная машына, якую ён дакладна хацеў. Падарыў яе адзін пацыент у знак удзячнасці: малады інтэрн паспеў уратаваць таму жыццё, пакуль не было побач доктара, а медсёстры не ведалі, што рабіць.

Усё ішло як мае быць, і, калі Майсей нарэшце стаў доктарам, мікрахірургам, у яго з’явілася жанчына – і не толькі на ноч.

Па вечарох ён знаходзіў сябе перад люстэркам у ванным пакоі... Корчачы смешныя рожы, называў сябе Валадаром жаданняў. А мянушку гэтую ён зусім нядаўна згадаў на сустрэчы аднакурснікаў: «Елка – гэта, вядома, файна, але ці памятаеш ты, як цябе мы звалі?»

– Валадар жаданняў! Я быў Богам! – і Майсей засмяяўся, ды так гучна, што ягоная сяброўка спыніла серыял ды выскачыла з фатэля.

– Ты там у парадку? Мілы?!

4.

Брат Майсея, маўклівы малады чалавек, да апошняга не паказваў сваю абранніцу. Вяселле было сапраўдным – радасным і журботным адначасова. І, пакуль усе цешыліся, што атрымалася прыгожая пара, Майсей не адводзіў вачэй ад нявесты, якая два дні запар засмучана апускала вочы долу. Дзяўчына некалькі разоў

казала Льву, што ёй трывожна побач з ягоным братам, і толькі чула: ён заўжды такі, дзіўнаваты, але добры.

І гэты добры, сам таго не чакаючы, пажадаў, каб прыгажуня стала ягонай. І зразумеў, што нават родны брат не можа быць яму перашкодай.

5.

Ліля – так звалі нявесту – была сцюардэсай, але пасля шлюбу пачала лётаць радзей: Леў забараніў. Маладая сям'я пасялілася недалёка ад бацькоў, бо планавалі дзяцей, і з часам магла спатрэбіцца дапамога.

І тут, нечакана для ўсіх, Майсей парваў са сваёй жанчынай, прадаў кватэру ў цэнтры і вярнуўся жыць да мамы і таты. Бацькі былі здзіўленыя, але і ўсцешаныя, што абодва сыны, такія дарослыя, пачалі зноў жыць побач.

Майсей амаль кожны вечар, паўтары гадзіны дабіраючыся з працы, перш чым прыйсці дадому, заходзіў павітацца з Львом і Ліляй.

Спачатку ўсё выглядала натуральна, і браты добра праводзілі вечары, атрымліваючы задавальненне ад вячэры, кіно і настолак. Хлопцы шмат гутарылі, жартавалі, і толькі Ліля пакутавала ад таго, як Майсей на яе глядзеў, як кожным разам шукаў магчымасць выпадкова да яе дакрануцца, усміхаўся так шчыра і сумна...

Жанчына пачала скардзіцца мужу, што Майсей занадта часта прыходзіць, а ім трэба часцей бываць удвух. Леў не мог узяць да галавы гэтыя скаргі і штораз абураўся, чаму гэта жонка так супраць ягонага роднага брата.

Урэшце, браты дамовіліся на суботнія сустрэчы. Але Майсей, хоць і пагадзіўся, ужо ў першы ж тыдзень парушыў дамову, завітаўшы ў сераду.

6.

Майсей не лавіў позірк Лілі, не спрабаваў сутыкнуцца на кухні. Выпіўшы тры келіхі брэндзі, павярнуўся да брата і прамовіў гучна, нервова, але няўмольна:

– Леў, я кахаю Лілю, і ўсё, што я раблю апошнія месяцы, усё дзеля яе. Я хачу з ёй быць штодзень, штогадзіну, штохвіліну!

Леў спачатку не сцяміў – ён засяроджана чытаў тэлеграм, кідаючы вокам і на фільм. А Ліля зразумела адразу ўсё – з рук выпаў відэлец, адкалоўшы кавалак талеркі.

Браты ў той вечар моцна пасварыліся – дайшло да бойкі і гнеўных задушлівых абдымкаў. Ліля крычала і пляскала па спінах, спрабуючы разняць велізарны клубок целаў. Але мужчыны не маглі спыніцца...

Наступным днём Майсей з’ехаў з бацькоўскага дома, не развітаўшыся ні з кім.

7.

Ён назірае, як яна расказвае пра аварыйныя выхады. Ён ляціць на Балі. Яна яшчэ нічога не ведае.

– Ліля, прывітанне, калі ласка, не пужайся, мне трэба табе сказаць некалькі слоў, калі ласка, прашу, не трэба мяне цурацца.

Вось стаіць брат яе мужа – даўгія валасы, барада, акуляры... Яна вагалася, але ўсё-ткі прайшла за Майсеем да невялікай кавярні, дзе яны селі за стол.

Гэтая кавярня сталася кропкай новых каардынат, адпраўным пунктам у жыцці мужчыны і жанчыны, якія засяроджана гутарылі, адпіваючы пакрысе каву.

8.

Дзяцей паклалі. Посуд памыты. Стол прыбраны. Варта было б адрамантаваць кран дый смецце вынесці, бо пахне ўжо. А яшчэ пафарбаваць сценкі ў калідоры. Замяніць патухлую месяц назад лямпачку... Ліля легла на рыпучы ложак і ўтаропілася ў ссутуленную спіну Майсея, які настолькі паглыбіўся у экран тэлефона, што нават не рэагуе на трывожнае варушэнне побач.

– Трэба нарэшце ложак паправіць!

– Ага.

– Майсей, я так не магу больш. Ты паламаў мне ўсё жыццё. Я не хачу з табой быць.

– А думаеш, я хачу? Я марную гады з табою, і дзеля чаго?!

– Не пачынай скардзіцца, паслухай мяне!

– А што, мне шыпець, як ты?

– Дзеці прачнуцца, ты іх будзеш спаць класці па новай?!

– Не.

– Ты казаў, што я галоўнае тваё жаданне! Ты мне столькі распавядаў! А ў выніку што?

– Што?

– Нічога, паглядзі, як мы збяднелі! І за столькі год нават не памірыліся ані з тваімі, ані з маімі!

– Слухай, ты сама вінаватая! Я цябе не прасіў заставацца са мной!

– Ах ты не прасіў?!

– Гэта праз цябе я ўсё страціў! Ты мая памылка!

– Сам ты памылка, валадар жаданняў сраны!

*Травень 2021*
*Брно*

# МЯЖА СУСВЕТУ

Ня прагні дому блізкага твайго.
*Выхад 20:17*

Я заўжды казала, што гэтыя поскудзі з шостага паверха да сметніка ніколі не даносяць свае пакеты, вечна іх вароны калашмацяць, потым памперсы, бульбяныя лупіны па ўсім двары раскіданыя, а потым гэтыя бамжы, мярзотнікі, цярушаць сметніцы, усё скарбы шукаюць, раскідваюць больш, чым тыя вароны. А тыя, што насупраць, пастаянна на лаўцы па вечарох з'ядаюць бургеры з Макдональдса свайго смярдзючага, потым толькі пакеты і кубкі па ўсім газоне ветрам перакотваюцца. А яшчэ нехта па начох выблёўвае  з форткі ўсё сваё пітво за вечар. Дадумаўся, блін! І недапалкаў дадае столькі, быццам там гарнізон байцоў паліць перад марш-кідком... Ёсць яшчэ тыя, хто газон гатовы выкапаць, дрэвы выкарчаваць і кусты павытыркаць – усё шукаюць заначкі свае. Вось, напрыклад, на дзявятым жыве сапраўдная Венера – жанчына проста кожны дзень прыязджае дадому на новай машыне і кожны раз цалуецца перад развітаннем! Гэта ж колькі трэба мець здароўя столькі трахацца! Мне казалі, што гэтая, з дзявятага, ездзіць на машынах «убер», хутчэй за ўсё, так называецца фірма, якая ёй пастаўляе гэтую бясконцую колькасць мужчын, альбо я блытаю назву з «ціндарам»... А тыя трайняшкі з шостага – кожная нарадзіла ўжо па тры дзіцёнкі, яны кожны год, як па плане, цяжараць, і ў ніводнай няма мужыка! Жах! Я не раз падыходзіла да іх дзвярэй, слухала, дык сярод крыкаў і гогату дзяцей чутна толькі, як гэтыя мамкі плачуць, і скрыгочуць зубамі, і равуць адна на адну, так ім цесна там! На пятым жыве гадкі падлетак, які брудзіць

у пад'ездах і плавіць кнопкі ліфта, і тое, што я з ім зрабіла, я распавяду пазней, бо пакуль толькі знаёмлю цябе з атачэннем, мой любы цень у звонкіх вокнах і шэрых люстэрках. Гэтыя ўсё ніяк не нападарожнічаюцца... То з валізамі ў Егіпет, то ў Турцыю, то яны на закупы ў Польшчу, то на ўік-энд у Літву, от добра, што лакдаўн, сядзіце дома! У гэтых бясконцы рамонт, такое адчуванне, што ў іх там завод! Колькі ж можна штодзень дрэліць, забіваць цвікі, пілаваць дошкі! Можа, на «ікею» якую падпрацоўваюць. Я да іх хадзіла процьму разоў – не адчыняюць, падлы. Ёсць адзін прыдурак з першага пад'езда, які выкарчаваў дзесяць канадскіх дэкаратыўных елак, насыпаў там гравій і паставіў сваю машыну, нават ланцугом пазначыў і замочак павесіў. Як вы думаеце, якая ў яго машына? Правільна, «бэ-эм-вэ»! Бо толькі на такіх машынах ганяюць, як ёлупы, у гэтай грэбанай цэнтральнай Еўропе! Яшчэ і сігналяць, гады! Ужо галава ад іх трашчыць! Мне добра бачна з вокнаў увесь свет, і я стаўлю яму два, бо ён кепскі, кепскі ён вельмі, гэты свет! На восьмым жыве сямейства дзяржслужбоўцаў – муж з жонкай і двое іхніх сыноў. Усе чацвёра такія белыя, з чорнымі вачыма, і выглядаюць так аднолькава, што, калі б я іх сустрэла ўвечары пад святлом ліхтароў, не пазнала б, хто з іх хто, а яшчэ цяпер і маскі на тварах пачалі насіць... Днём іх не бачна – усе па выканкамах, а позна ноччу я назіраю, як іх целы ажно адбіваюцца белым у двары. Туды-сюды, туды-сюды. Ёсць у мяне падазрэнне: яны кантралююць раён, ахоўваюць яго ад чырвоных і белых стужак. Ох, якія яны страшныя людзі! Ну нічога, хутка мая помста іх напаткае! Ёсць яшчэ суседка, якая штотыдзень вывалочвае пад бэз чарговую мяккую цацку. Дзе яна толькі знаходзіць столькі гэтых страшыдлаў! А гэтыя фацэты, што заплявалі семкамі ўсе лаўкі і дзіцячыя пляцоўкі – як я іх ненавіджу, асабліва калі яны свае лушпайкі перамешваюць з недапалкамі, жуйкамі і бутэлькамі з-пад піва! Каб яны падавіліся! Але самы вялікі мой боль – гэта дзеці і галубы. Ніякія сілы не спыняць адных псаваць усё, што бачаць, а другіх серці паўсюль: на асфальт, траву, пясок, вокны, машыны, дзверы. Падлавіла гэтых рамонтнікаў, што дрэляць штодзень, – наўмысна дзяжурыла пад дзвярыма, хавалася за лесвіцай. Чакала, бо дакладна не было ні стуку ні груку з кватэры. У выніку падлавіла, калі яны, гэтыя два бамбізы, адчынілі ўваходныя дзверы. Я не дала ім зайсці першымі – куляй заляцела ў кватэру і сапраўды: у аднапакаёўцы стаіць станок дрэваапрацоўкі, з рыштункам, каб не толькі паліцы збіваць ды вешаць, але каб рабіць і складанейшае – мэблю драўляную дык дакладна. На свае вочы бачыла! Во даюць, наладзілі тут «пінскдрэў»! Я не стала нават гутарыць з імі, проста пазваніла куды трэба, каб праверылі жыллёвае памяшканне... Я спачатку выкідала бабаўняныя лялькі ў сметнік, але яны

вярталіся, брудныя, аблезлыя, але ж вярталіся. Тады я проста пачала іх крумсаць нажніцамі і тады выкідаць, і так, каб розныя часткі ад звяроў – мішак, зайчыкаў, чабурашак усякіх – былі ў розных кутах раёна. Я выбіла шыбы ўсім, каго знайшла, усім, хто выкідае смецце з вокнаў. За гады жыцця я накідала сотні палаючых пакетаў з лайном пад дзверы тых суседзяў, хто сябе кепска паводзіў, давялося пакараць усіх па чарзе. Фацэты тыя, падлеткі з мясцовай школы... Што я толькі ні рабіла: і яйкамі іх закідвала, як снайпер, хаваючыся на гаўбцы за геранямі, і выклікала на іх міліцыю, а яны толькі размнажаюцца, іх усё болей становіцца. І я прыдумала: я зрабіла процьму подпісаў, хто з іх што ўяўляе ў гэтым свеце. Панадрапвала імёны, мянушкі і добра так іх усіх абразіла. Цяпер на кожнай лаўцы ёсць інфа. Рассварыла я іх знатна, ажно сядзела перад акном увечары і назірала першую разборку, бойку ўсіх супраць усіх. Файна было. Я ж не вінаватая, што яны такія тупыя і злосныя, як сабакі бешаныя. Ну, што я магу сказаць. Адсачыла я тую сям'ю чыноўнікаў і даведалася, што яны ў выканкамы цяпер ні нагой – хатняй працай займаюцца, разглядаюць лісты ад мясцовага насельніцтва, літаральна не выходзячы з кватэры. Я на свае ўласныя вочы бачыла, як у калідоры бацька іх, здаецца, падвешаны за ногі зялёным дротам уніз галавой, матляецца з боку ў бок. Я, праўда, не чакала такога ўбачыць, ускрыкнула, але і яны не паспелі ўбачыць мяне, бо я хутка скокнула за ўваходныя дзверы. Але я паспела шпрыцам упырснуць у дзвярны праём усе дваццаць кубоў сырога яйка, вось жа пах ім будзе – такі, што не пазбавяцца, пакуль дзвярную каробку цалкам не памяняюць! Няхай ведаюць, што за кантроль над раёнам будзе ім помста! Блін, я так і не знайшла таго самага, хто столькі бутэлек выкідае ў фортку. Каб у яго ад гарэлкі пячонка здохла, ад цыгарэт – лёгкія! Спадзяюся, хутка. З бэ-эм-вэшчыкам я доўга не марудзіла, а наўпрост ноччу выйшла і падпаліла машыну. Згарэла яго тачка, як і, дарэчы, суседнія тры, але ж то не мая віна, не трэба было ставіць на самаробным паркінгу свае карчы! Ды яшчэ і сігналіць цэлымі днямі! А потым мне быў відзеж: прыйшоў да мяне Архангел Гаўрыіл і сказаў, што я ёсць меч у руках Госпада, меч, які карае, і я думаю, трэба будзе пашыраць сваю дзейнасць, можна заняцца кругласуткавым назіраннем, паставіць паўсюль камеры, запісваць наваколле і помсціць, помсціць, каб памяць была вечнаю аб подзвігах маленькага чалавечка, няважна, якой цаной...

– Ева, дачушка! Мы дома! Мы забыліся заехаць у краму. Татка моцна стаміўся з дарогі. Кіравалі ўвесь дзень!

О, гэта мае старыя вярнуліся. Я б даўно ад іх пазбавілася, але нельга – жытло, жрачка… А так я занятая толькі сваёй місіяй. А яны няхай думаюць, што я вучуся анлайн ва ўніверсітэце Нямеччыны. Ох, як жа мне хочацца іх кокнуць! Ты, мой цень, мой берсерк, беражы сябе для годных спраў, трымай раён у сваіх сталёвых пальчатках, і будзе табе слава ў Вальгале, куды трапляюць усе войны святла!

– Мамуся, я ўжо апранаюся! Можна я сабе марозіва куплю?! І чыпсы?!

– Марозіва набудзь, але чыпсы маладой прыгажуньцы – кепска для скуры і фігуры!

– Ладна! Татусік, а можна часопіс?!

– Добра, Еванька, і яшчэ, калі ласка, бульбу і свежую куру!

*Ліпень 2021*
*Камарышкі / Мінск*

## Сяргей Календа




Пісьменнік, культуролаг, рэдактар часопіса «Мінкульт».

Скончыў факультэт міжнародных адносінаў.

Стрыжэ валасы з 15 гадоў, вучыўся ў найлепшай ангельскай цырульніцкай акадэміі Toni&Guy.

Напісаў шмат кніг, але галоўным дасягненнем жыцця лічыць тое, што ў 30 гадоў навучыўся плаваць усімі магчымымі стылямі.

Лаўрэат прэміі «Празрысты Эол 2018» за найлепшую электронную кнігу.

Трохразовы шорт-лістар прэміі Гедройця, пераможца ў намінацыі «Выбар Алексіевіч» (2019) за кнігу «Часам панкі паміраюць».

Гадуе дваіх сыноў.

Захапляецца баскетболам, лецішчам і настолкамі.

Фанат Тома Ёрка, якога неяк выпадкова сустрэў на Сіцыліі.

